# наша СВАБОДА

№76 ВЫДАЕЦЦА З 25 ЛЮТАГА 2000 ГОДА

21 ЛІСТАПАДА 2000 года
АЎТОРАК

Адрас: 220123, г.Мінск, а/я 103

E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by
http://www.svaboda.com

КОШТ СВАБОДНЫ


стар.7



«Гаворыць Мінск!»

стар.5

**Славяне, грошы і статыстыка**

Матэрыял М.Залескага параўноўвае абсалютную беднасць у 23-х краінах пераходнага тыпу, у тым ліку Беларусі, Расіі, Польшчы і Літве.

стар.4

**Журналіста забілі за кампрамат?**

Вядомы ўкраінскі журналіст Георгій Гангадзэ знік у цэнтры Кіева два месяцы таму. Існуе вялікая верагоднасць, што ён быў забіты.

стар.7

**Нет пристанища «Гобелену века»**

Невеселая судьба самого большого гобелена в мире.

стар.4

**Супердзяржавам канец**

## Хто стане прэзідэнтам Беларусі?

Валянціна КАЗЛОВІЧ

Ужо да канца 2000 года дэмакратычныя сілы Беларусі павінны вызначыцца з адзіным кандыдатам на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах, а ў студзені 2001 года — назваць гэтую кандыдатуру. Так лічыць кіраўнік каардынацыйнага савета «Рэгіянальная Беларусь» Сямён Домаш, які 18 лістапада ў Брэсце разам з членамі савета абмяркоўваў гэтую праблему.

Адказваючы на пытанне карэспандэнта БелаПАН, Сямён Домаш падкрэсліў, што зараз галоўнае — вызначыць стратэгію і тактыку на маючых адбыцца прэзідэнцкіх выбарах. Што да адзінага кандыдата, то называць нейкія прозвішчы С.Домаш не стаў, адзначыўшы, што зараз такіх кандыдатураў шмат: «Праблема — правільна вызначыцца. Гэты чалавек павінен адпавядаць многім крытэрыям, падабацца людзям».

Сямён Домаш не выключае, што дэмакратычная апазіцыя можа выступіць з заклікам байкатаваць і прэзідэнцкія выбары. Здарыцца гэта, паводле ягоных словаў, у тым выпадку, калі ўлада не пойдзе на пэўныя ўступкі (змяненні ў заканадаўстве, доступ апазіцыі да СМІ, спыненне палітычных рэпрэсій і г.д.). Адказваючы на пытанне, што будзе рабіць апазіцыя, калі Аляксандр Лукашэнка не захоча аддаваць уладу ў выпадку паражэння, С.Домаш сказаў: «У гэтым выпадку баяцца няма чаго. Мы зараз не адны і не ізаляваны ад свету. Менавіта знешні ціск прымусіць А.Лукашэнку аддаць уладу. Не падтрымае яго і Расія, калі ён прайграе». ■

БелаПАН



● Лідэры беларускай апазіцыі Аляксей Кароль, Анатоль Лябедзька, Андрэй Саннікаў, Вінцук Вячорка на сустрэчы з Камісарам Рады Еўропы па міжнародных адносінах і бяспецы Хаўерам Саланам (у цэнтры)

## Пякучы ліст афіцэра

**«Всем, кто прочтет эту информацию! К делу об исчезновении оператора ОРТ Дмитрия Завадского и оппозиционного политика Виктора Гончара!**

Я офицер Комитета государственной безопасности Республики Беларусь. По целому ряду обстоятельств не могу сообщить свою фамилию и должность, которую занимаю. Информация, которую я хочу сообщить, общественно значима. От того, как скоро она станет достоянием гласности, зависит жизнь и будущее многих людей.

К сожалению, я ограничен в изложении фактов, так как к материалам дела имеет доступ ограниченное количество оперативных сотрудников и офицеров КГБ. Упоминание более уточненных данных может привести к неоправданным жертвам.

Ведение следствия по делу об исчезновении Дмитрия Завадского было поручено Генеральной прокуратуре и Комитету государственной безопасности. Факты, которые вскрывались по ходу следствия, вызвали не только давление на органы следствия со стороны Совета безопасности, но и вызвали противостояние между КГБ и Службой безопасности президента. На след группы похитителей КГБ вышел после ареста Игнатовича, бывшего офицера спецподразделения «Алмаз». Игнатович был арестован по другому делу, но сам он несколько раз был в Чечне, где воевал на стороне сепаратистов. Во время следствия Игнатович назвал ряд фамилий белорусских военнослужащих, сотрудничавших с чеченскими сепаратистами в качестве инструкторов. После их ареста подтвердилась чеченская версия следствия. По делу об исчезновении Завадского, на сегодняшний день, арестовано 9 человек. Пятеро из них являются действующими офицерами Службы безопасности президента, двое – бывшие сотрудники этой службы, один – бывший офицер спецподразделения «Алмаз», а еще двое – уроженцы Чечни. ▶

Працяг на стар.3

## На запах газовых сверхприбылей

Роман ЯКОВЛЕВСКИЙ

На прошедшей неделе государственное предприятие «Белтрансгаз» отметило свой 40-летний юбилей. Поздравить белорусских газовиков прилетели и руководители РАО «Газпрома» Рэм Вяхирев, частый в последнее время гость в Беларуси, и его молодой коллега Игорь Макаров – президент международной энергетической компании «Итера». Не секрет, что интерес россиян к юбилярам, да и вообще к Беларуси далеко не бескорыстен. Особенно он усилился с планами прокладки газопроводов через белорусскую территорию и последующими поставками газа в Европу, что сулит огромные сверхприбыли этим монополистам. Помимо газопроводов, к примеру, «Итера» успешно осваивается на белорусских нефтеперерабатывающих заводах, пока участвуя в их реконструкциях. Ожидают свою долю дохода от заманчивых перспектив и белорусские власти, которым предстоит все же согласиться и на акционирование «Белтрансгаза». Россияне все плотнее с этим вопросом поджимают.

А тем временем российская Счетная палата – парламентское учреждение, контролирующее деятельность предприятий – начало масштабную проверку всей газовой промышленности. Как известно, Европейский банк реконструкции и развития требует дать подробную информацию по поводу отношений «Газпрома» и «Итеры», ставя это условием предоставления «Газпрому» кредита в 250 миллионов долларов. Начало проверки ведомством Сергея Степашина свидетельствует о том, что Кремль также выразил свой интерес к взаимоотношениям этих двух структур. Еще летом газпромовский экс-премьер Виктор Черномырдин неожиданно ушел с поста председателя совета директоров «Газпрома». Его место занял один из ближайших помощников Владимира Путина.

В последнее время инвесторы, которым принадлежит примерно 20% акций «Газпрома», выражают недовольство тем, что «Итере» дали возможность по дешевке завладеть ценными активами газового монополиста.

Изучив в этом году деятельность «Итеры» и «Газпрома», Счетная палата уже выяснила, каким образом молодая компания пользуется близостью к мировому гиганту. Так, к примеру, в период 1998-1999 гг., чтобы платить местные налоги живыми деньгами (примерно 210 млн. долларов), «Газпром» рассчитывался газом. Позже, после ряда манипуляций через свои дочерние компании и резкой девальвации рубля, «Итера» экспортировала сырье в бывшие советские республики по цене в 40 и 80 долларов за 1.000 кубометров. Правда, ее представители при этом утверждали, что прибыли от этих операций были небольшие из-за транспортных пошлин. ▶

Продолжение на стр.3

## НАВІНЫ

■ **Учора ў судзе Ленінскага раёна г.Мінска былі спыненыя адміністратыўныя справы У.Кішкурны, Л.Садоўскага, М.Садоўскага і С.Міхнова, якія абвінавачваліся ў парушэнні заканадаўства аб выбарах. 11 кастрычніка яны раздавалі спецвыпуск газеты НАША СВАБОДА.** Суддзі Церашкова і Жданок спынілі справы паводле змяненняў у Кодэксе аб адміністратыўных парушэннях, згодна з якімі адмяняецца адказнасць за заклікі да байкоту выбараў.

■ **16 лістапада рабочыя Мінскага маторнага завода правялі стыхійны мітынг.** Яны патрабавалі павышэння заробкаў і рэгулярнасці іх выплатаў. Фабрычная адміністрацыя злякалася, і ўжо на наступны дзень рабочым пачалі выплачваць грошы. Аднак толькі мізер – па 5 тысячаў рублёў.

■ **Гомельскае аб'яднанне «Дапамога дзецям Чарнобыля» адмаўляецца ад нямецкага гуманітарнага грузу з дзіцячым харчаваннем.** Гэта 120 тонаў коштам на 1 мільён марак. Справа ў тым, што прадукты няма дзе захоўваць. Да ўсяго зберагацца перад размеркаваннем яны могуць блізу паўгода, але яшчэ болей часу ідзе на ўсталяваныя дзяржавай працэдуры атрымання сертыфікацыі якасці.

■ **Паралімпійскі камітэт Беларусі звярнуўся да старшыні Нацыянальнага алімпійскага камітэта А.Лукашэнкі з просьбай выплачваць пераможцам Паралімпійскіх гульняў гэткія ж сумы, як і алімпійцам.** Пра гэта паведаміла радыё «Рацыя». Зварот матываваны леташнім указам А.Лукашэнкі, паводле якога спартсменам-інвалідам выплачваецца ўзнагароджанне ў 8 разоў меншае, чым здаровым атлетам. Паралімпійцы сведчаць: па выніках перадапошняй Алімпіяды ў Атланце 4 гады таму яны ўварціліся выплаты за кожны медаль 50%-й часткі сумы, якую атрымоўваюць здаровыя спартсмены.

## НАДВОР'Е НА ЗАЎТРА




**Курс наяўнага долара на «чорным рынку» 1200**



# Казка ёсць падман

**Аляксандр ДУБРАВІН**

Адзін быў прадаў кватэру, купіў аўто і яшчэ грошы засталіся, дык ён паехаў у Парыж. Чытаў пра яго ў кніжках, калі яшчэ быў дурны і малады. Моцна марыў праз усё сваё жыццё і ажыццявілася.

Залез спачатку на Эйфелеву бакшту: нармальна вецер дуе! Плюнуў з моста ў Сену – уга! Наша Свіслач вузейшая. Каля Луўра пастаяў – невысокае дворышча, толькі што называецца каралеўскім палацам. А потым стаў швэндацца як непрытомны па тых вуліцах, дзе голыя дзеўкі палююць. Але ж няма ніводнай! Што такое? Што за каравул? Што расказваць зяцю? Такой Парыж нам ня нужон! Мусіць, усіх паразбіралі на той час. А іншыя, кажуць яму, цяперака ў Булонскім лесе стаяць, рукамі машуць, каб сагрэцца. Цяперака там іхняя стаянка. От, ён тады сабе фантазію напускае, нібыта менавіта яго яны чакаюць і гэтак сумна сочаць-даляглядь: калі ўжо чорт прынясе? Ды поўную жменю франкаў аддае на таксоўку, чорнаму, як нафта, мурыну, каб у лес завёз, сабака. А той лес апынуўся блізка! Гэта, каб вы ведалі, і не лес, а звычайны парк са сцежкамі, накшталт нашага «Імяні шасцідзесяцілецця Акцябра», толькі без сабачых кучак. У іх там, што Булонскі лес, што Ялісейскія палі, што Марсавае поле – адна хвароба. Усё не сапраўднае, не вясковае, адны толькі назвы. А грошы між тым ляснулі, бо мурын яго адразу выкінуў і пагазаваў сабе, як лось па градах! І ноч на вуліцы! Пазірае наўкол – дзе тыя дзеўкі, каб іх маланка папаліла?

Ажно чуе ззаду далікатныя хіхі. Стаіць адна быццам француззіха ў фарбах і ківае яму доўгім кіпцем: хадзі сюды, мой дарагі лямур! Ён, натуральна, радасна ляціць у абдымкі! Ё-маё! Бляха-муха! Асушчаствіліся мячты!

— Мая ты ластаўка! — сакоча, мацае яе дрыжачымі рукамі. – Галуба дарагая. Прыгажуня французская!

І тут чуе такое, ад чаго валасы становяцца дыбкі:

— Ты! – гаворыць яму з цемры суровы бандыцкі голас да болю знаёмай мовай. – Фраер такой-сякой тудасюда растакую тваю так! Гоні бабкі, козліна, в натуре!

...От і мы, часам, напрыдумляем сабе неверагодных мараў, укінемся ў іх з галавою, а потым, як пабачым рэчаіснасць, дык і перапужаемся. Той-сёй ужо фантазію напускае, што прыедзе да нас аднекуль прынц залаты, неабмежаванай прыгажосці, у дыямантавай карэце і стане новым прэзідэнтам. Ужо і лічбы нам кажуць, колькі за яго прагаласуе. Засталося толькі пальцам паказаць і крыкнуць: вось ён! Казка! А казкі, ведай, маняць. ■

# Мэта – бестэрміновы страйк

**Рыгор БУЯН**

Аднадзённы папераджальны страйк прыватных прадпрымальнікаў 23 лістапада ахопіць рынкі як мінімум 18 беларускіх гарадоў: усе абласныя цэнтры, за выключэннем Брэста, Салігорска, Баранавічаў, Слуцка ды іншых рэгіёнаў. На апошнім перад акцыяй паседжанні Каардынацыйнага савета прадпрымальніцкіх арганізацыяў прадпрымальнікі з 18 беларускіх гарадоў расцанілі сітуацыю на рынках краіны як крытычную, якая значна пагоршылася пасля ўступлення ў сілу пастановы Дзяржаўнага мытнага камітэта №55 «Аб мытным афармленні тавараў, увозімых на мытную тэрыторыю РБ з тэрыторыі РФ, выробленых у трэціх краінах і выпушчаных у абарот у РФ». Пастанова абавязвае прадпрымальнікаў рабіць дэкларaванне, мытнае афармленне тавараў, плаціць пошліну ў памеры 20-60% і падатак на дабаўленую вартасць (ПДВ) 10-20%.

Каардынацыйны савет падтрымаў патрабаванні Рэспубліканскага стачкама, вылучаныя 2 лістапада. Прадпрымальнікі патрабуюць спрасціць надзвычай груваcткі парадак іхняе дзейнасці. Фактычна пастанова мытнага камітэта патройвае колькасць неабходных дакументаў для прадпрымальнікаў.

«Чаўнакі» патрабуюць ад уладаў спыніць прававое бязмежжа, калі па фармальных прыкметах могуць канфіскоўваца тавары, а таксама адмяніць мытнае афармленне тавараў, якія выпушчаныя ў абарот на тэрыторыі Расіі, але выробленыя ў трэціх краінах, і завозяцца ў Беларусь.

Каардынацыйны савет незадаволены і арэнднай платай. Метр гандлёвай плошчы на рынках цяпер каштуе 20-25 долараў ЗША ў месяц, а метр офіснай плошчы – 10-13 долараў.

Прадпрымальнікі ніяк пагадзіцца не могуць, што з імі не ўзгадняўся праект дэкрэта «Аб адзіным падатку». Прафсаюзныя арганізацыі прадпрымальнікаў выступаюць катэгарычна супраць павышэння ставак фіксаванага падатку. Праект дэкрэта прадугледжвае павелічэнне стаўкі ў паўтара раза.

Супраць усяго гэтага і будуць пратэставаць прадпрымальнікі 23 лістапада. Праз пару дзён пасля аднадзённага страйку прадпрымальнікі збяруцца, каб вызначыць геаграфію правядзення прадпрымальніцкіх мітынгаў. «Чаўнакі» гатовыя пайсці на бестэрміновы страйк. У гэтым выпадку дзяржаўная казна страціць як мінімум паўтара мільёна долараў ЗША. ■

# Шарамету зноў пагражае турма?

**Прэс-цэнтр Хартыі'97**

Крымінальная справа супраць стваральніка «Дзікага палявання» Паўла Шарамета ўзбуджаная днямі беларускімі праваахоўнымі органамі. Аб гэтым паведамляе сам аўтар дакументальнага фільма аб палітычных выкраданнях, што адбыліся на Беларусі. У пракуратуры Беларусі гэтую інфармацыю не абвяргаюць і не пацвярджаюць.

16 лістапада супрацоўнікі Генеральнай пракуратуры Расійскай Федэрацыі зрабілі на ОРТ выманне касеты з запісам фільма «Дзікае паляванне» і касеты з фрагментам перадачы «Чакай мяне», у якой удзельнічалі Павел Шарамет і маці апаратара ОРТ Дзмітрыя Завадскага, які знік без вестак. Гэтыя дзеянні рабіліся па запыце Пракуратуры Рэспублікі Беларусь у рамках крымінальнай справы, узбуджанай беларускай пракуратурай пасля паказу фільма «Дзікае паляванне» па канале ОРТ. Па інфармацыі П.Шарамета, справа ўзбуджаная супраць яго за абразу пасадной асобы — Аляксандра Лукашэнкі.

Павел Шарамет падкрэсліў, што ў фільме «Дзікае паляванне» не было сказана, што Завадскага выкраў Лукашэнка. Там гаварылася, што ад Лукашэнкі чакаюць адказу на пытанне, дзе Завадскі. На думку Шарамета, занадта шмат людзей і ў Беларусі, і ў Расіі лічаць, што да знікнення беларускіх палітыкаў Віктара Ганчара і Юрыя Захаранкі, а таксама апаратара ОРТ маюць дачыненне спецслужбы. Прычым гэтыя людзі, паводле словаў Шарамета, разважаюць так не таму, што ненавідзяць беларускую ўладу, а таму, што факты — упартая рэч, і яны — не на карысць уладзе. ■

# Усіх «сябраў» зрабіць «членамі»

Упраўленне юстыцыі Гродзенскага аблвыканкама разгледзела заяву аб рэгістрацыі Смаргонскага грамадскага аб'яднання «Праваабарончы цэнтр» і адтэрмінавала рэгістрацыю на месяц. Заўвагу юрыстаў выклікала слова «сябар» (арганізацыі), якое, паводле меркавання ўпраўлення юстыцыі, не адпавядае літаратурным нормам; яго рэкамендуюць замяніць словам «член». Акрамя таго, у склад заснавальнікаў параілі ўключыць хаця б аднаго грамадзяніна з сельскай мясцовасці, паколькі дзейнасць арганізацыі будзе распаўсюджвацца і на раён. Слова «цэнтр» таксама папала ў няміласць: адгэтуль прывілей на гэтае слова маюць толькі дзяржаўныя арганізацыі, усім астатнім называцца «цэнтрамі» забаронена. ■

Barc news

# Фестываль незалежнай прэсы




● Прэзідэнт Беларускай асацыяцыі журналістаў Жанна Літвіна ўрачыста разам з гасцямі перарэзае цырыманіяльную стужку

**Юры КАРПЕНЯ**

У Мінску 17–18 лістапада праходзіў I Рэспубліканскі фестываль незалежнай прэсы. Ягонымі ўдзельнікамі сталі прадстаўнікі каля 50 рэдакцыяў недзяржаўных выданняў з Мінска, абласных і раённых цэнтраў краіны.

У неафіцыйнай частцы фестывалю жоўтыя майкі лідэраў ад Беларускага саюза прадпрымальнікаў і арандатараў імя М.Куняўскага атрымалі рэдакцыі «Белорусской деловой газеты», «Белорусского рынка» і «Комсомольской правды в Белоруссии». Былі ўручаныя прызы ад Беларускага ПЭН-цэнтра, тэатра «Вольная сцэна», прафсаюзаў, Аб'яднанай грамадзянскай партыі, Беларускай асацыяцыі журналістаў.

Пэўным дысанансам на свяце газетнай незалежнасці прагучала віншаванне ад вядучых старшыні БСПіА Таццяне Быкавай, якая згадзілася вылучацца кандыдатам у Савет Рэспублікі – верхнюю палату беларускага «парламента». У той час, калі цiск рэжыму на незалежную прэсу ўзмацняецца, а з 1 студзеня 2001 года многія незалежныя газеты проста скончаць сваё існаванне, не прайшоўшы лукашэнкаўскую перарэгістрацыю, такая «ветлівасць» кіраўніцтва БАЖ мае дзіўныя рысы. ■

# Машэрава прэтэндуе на спікера

**Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ**

21 лістапада ў Доме ўрада пройдзе першае паседжанне палаты прадстаўнікоў. 97 дэпутатаў, сярод якіх 35 ужо адседзелі ў палаце, збіраюцца размеркаваць уладныя партфелі: абраць кіраўніцтва палаты, сфармаваць камісіі. Аднак задоўга да першага паседжання пачалася барацьба за месца спікера. Паводле звестак НАШАЙ СВАБОДЫ, адным з найбольш верагодных кандыдатаў на пасаду старшыні палаты называецца дачка былога першага сакратара КПБ Пятра Машэрава, вядомая сваімі прапрэзідэнцкімі поглядамі. Адзінае, што можа перашкодзіць ёй кіраваць палатаю, вылучэнне яе кандыдатуры на прэзідэнцкія выбары з тым, каб, адабраўшы галасы ў іншых кандыдатаў, затым зняць сваю на карысць А.Лукашэнкі. ■

# Гуманітарная дапамога...свіннямі

Жыхары вёскі Багданаўка Лунінецкага раёна Берасцейскай вобласці атрымалі 120 жывых свінняў у якасці гуманітарнай дапамогі ад горада Дунган (Паўночная Ірландыя). Раздавалі жывёлаў па спісах, якія складалі вясковыя настаўнікі. Відома ж, больш за ўсё парсючкоў самі школьныя супрацоўнікі і атрымалі. Раздавалі жывёлаў у школьным ціры, куды людзей запускалі па спісе лавіць упадабанага парсючка. На наступны дзень у школе было арганізаванае свята з бясплатнымі пачастункамі ад ірландцаў. ■

Barc news

# Змяняецца парадак дзяржаўнай рэгістрацыі асобных юрыдычных асобаў

**Наталля КУЛАГІНА, БелаПАН**

18 лістапада ўступіў у сілу дэкрэт «Аб унясенні змяненняў і дапаўненняў у дэкрэт прэзідэнта Рэспублікі Беларусь ад 16 сакавіка 1999 г. № 11 і некаторых пытаннях дзяржаўнай рэгістрацыі асобных юрыдычных асобаў».

Дэкрэт прыводзіць у адпаведнасць з нядаўна выдадзенымі актамі заканадаўства парадак ажыццяўлення дзяржаўнымі аб'яднаннямі арганізацыяў і прадпрыемстваў (канцэрнамі, саюзамі, асацыяцыямі), створанымі па рашэнні прэзідэнта або ўрада, сваіх функцыянальных абавязкаў па кіраванні арганізацыямі, што ўваходзяць у іх састаў, а таксама парадак праходжання імі дзяржаўнай рэгістрацыі.

У прыватнасці, падаўжаюцца тэрміны прывядзення ўстаноўчых дакументаў юрыдычных асобаў у адпаведнасць з Грамадзянскім кодэксам і дэкрэтам прэзідэнта ад 16 сакавіка 1999 года «Аб упарадкаванні рэгістрацыі і ліквідацыі суб'ектаў гаспадарання». Для калгасаў тэрмін падаўжаецца да 1 ліпеня 2003 года, для іншых юрыдычных асобаў – да 1 ліпеня 2001 года.

Дэкрэт уносіць змяненні ў Палажэнне аб дзяржаўнай рэгістрацыі і ліквідацыі суб'ектаў гаспадарання. Так, мінімальныя памеры статутных фондаў і плата за дзяржаўную рэгістрацыю ўстанаўліваюцца не ў мінімальных заробтных платах, а ў сумах, эквівалентных еўра. Зніжаны мінімальныя памеры статутных фондаў (у параўнанні з еўра):

– са 193 да 150 еўра – для сялянскіх (фермерскіх) гаспадарак;

– з 580 да 400 еўра – для таварыстваў з дадатковай адказнасцю, гаспадарчых таварыстваў, вытворчых кааператываў, у тым ліку сельскагаспадарчых вытворчых кааператываў, і казённых прадпрыемстваў;

– з 2.902 да 800 еўра – для унітарных прадпрыемстваў, заснаваных на праве гаспадарчага распараджэння;

– з 11.610 да 1.600 еўра – для таварыстваў з абмежаванай адказнасцю. ■

# Пякучы ліст афіцэра

Працяг, пачатак на стар.1

Подследственные признались в убийстве Дмитрия Завадского и указали место в лесной зоне недалеко от Минска, где было закопано тело Завадского. В распоряжении следствия оказалась и лопата со следами крови. Экспертиза выявила идентичность крови на лопате с кровью Дмитрия Завадского. Эксгумация тела Дмитрия Завадского не состоялась. Ее не дали провести следственной группе руководство Совета безопасности и лично президент. Вместо этого в администрацию президента были вызваны председатель КГБ Владимир Мацкевич, Генеральный прокурор Олег Божелко и министр внутренних дел Владимир Наумов. Президент приказал передать дело в МВД, мотивируя это тем, что следствие идет недостаточно интенсивно. На самом деле, это было сделано для того, чтобы развалить дело об исчезновении Завадского.





В ходе следствия также выяснилось, что эта преступная группа имела прямое отношение к исчезновению и убийству оппозиционного политика Виктора Гончара. В их ликвидации принимало участие 14 человек. Пятеро из них разыскивались вплоть до передачи дела в МВД. Во время следствия давление на следственную группу дошло до критической точки. Два следователя были избиты, а жену одного из них пытались изнасиловать. Но, несмотря на это, следователи продолжали работу по изобличению преступников.

Я хотел бы, чтобы семьи погибших знали – мы не звери, как некоторые пытаются нас представить. Мы сочувствуем вам и понимаем, что ничто не восполнит вашей утраты. Единственное, что в наших силах – это изобличить преступников. А если кто-то пытается этих преступников покрыть, то им самим не избежать скамьи подсудимых. ■

**Гэты ліст мы атрымалі ўчора па электроннай пошце**

## Рэдакцыя НАШАЙ СВАБОДЫ звярнулася да зацікаўленых ведамстваў і асобаў з просьбай пракаментаваць гэты ліст:

**Фёдар Котаў – кіраўнік цэнтра інфармацыі і грамадскіх сувязяў КДБ:** «Афіцыйнай рэакцыі на гэтую інфармацыю няма. Ліст можна параўнаць з надпісамі на плоце, на якія мы, як правіла, не адказваем. Падобныя ананімкі даволі часта з'яўляюцца ў інтэрнэце, напрыклад, калі памятаеце, тэкст быццам бы тэлефонных перамоваў Віктара Ганчара з Гары Астроўскім.Тым болей, у тэксце ёсць арыфметычныя недакладнасці ў падліку арыштаваных. Або, напрыклад, такой установы, як Генеральная пракуратура, у Беларусі няма».

**Супрацоўнікі прэс-цэнтра міністэрства ўнутраных справаў** толькі ад нас даведаліся пра гэты ліст і папрасілі перасласць яго на факсе. Каментаваць адмовіліся.

**Вядомы расійскі тэлежурналіст Павел Шарамет:** «Ліст дастаткова праўдападобны, бо такую інфармацыю мы атрымалі перад паказам фільма «Дзікае паляванне». Некаторыя факты ў лісце супадаюць з нашай інфармацыяй, некаторыя мы ведаем. Напрыклад, што Ігнатовіч ваяваў не толькі супраць федэралаў, але і на іх баку, нават узнагароду атрымаў. Мы ведаем, што следчая група пракуратуры зрабіла вялікую працу ў расследаванні гэтай справы, ім дапамагалі і расійскія службы. Напрыклад, арыштаваць падозраных дапамагло расійскае ФСБ».

**Пракуратура:** «У асноўным гэта няпраўда, следства ідзе, некаторым прад'яўленыя абвінавачванні, некаторым не». ■

# На запах газовых сверхприбылей

Продолжение, начало на стр.1

Что касается Беларуси, то, судя по той доброжелательности и подчеркнутому вниманию, которые А.Лукашенко проявляет к «Итере» и ее представителям, можно предположить, что от хитроумной «итеровской» схемы получения прибылей в Минске в обиде не остались. Все наблюдатели обратили внимание, как, приехав на один из московских саммитов стран СНГ, А.Лукашенко сначала посетил штабквартиру «Итеры», а затем уже Кремль.

По неофициальной информации, намерения В.Путина разобраться (пока через Счетную палату) с газовыми бизнесменами вызвали повышенное внимание и настороженность в правящих кругах Беларуси. Там допускают вероятность того, что после комплексной проверки «Газпрома» и «Итеры» у Кремля появится дополнительный (а может, и основной) рычаг эффективного воздействия на своего стратегического союзника. Для многих до сих пор остается загадкой, почему опальный бывший завхоз Иван Титенков оказался именно в московской «Итере». По крайней мере, тема степашинской проверки и нынешней титенковской деятельности весьма активно и конфиденциально обсуждалась на прошедших юбилейных торжествах «Белтрансгаза». ■

## ДАВЕДКА нашай свабоды

Оффшорная «Итера» изначально была задумана как теневая структура с широким диапазоном функций. Прежде всего это запасной аэродром для российских «газовых генералов», когда им придется покинуть насиженные места. Во-вторых, это инструмент концентрации средств от экспорта российского сырья. Но есть и третья функция, не менее важная: «Итера» подкармливает политические элиты в странах СНГ с целью создания благоприятного климата для бизнеса российских газовиков. Масштабы финансирования этого проекта «Газпрома» впечатляют: за 6 последних лет прибыли «Итеры» составили по различным оценкам свыше 500 миллионов долларов. Более того, из назначенного волей руководства «Газпрома» посредника она превратилась в добывающую компанию. С помощью специальных схем «Газпром» передал «Итере» права на разработку пяти крупных месторождений в Сибири с разведанными запасами в десятки миллиардов кубометров газа, что гарантирует стабильный уровень доходов собственникам проекта и в дальнейшем.

«ИТЕРА Беларусь» – региональная дочерняя компания Группы в Республике Беларусь, базируется в Минске.

В 1997 году «ИТЕРА Беларусь» стала активным участником взаиморасчетов между поставщиками и потребителями природного газа.

## ФОТАФАКТ




# У пошуку «ворагаў народа»...

Наталля КУЛАГІНА

«Здраднікамі» і «ворагамі народа» назваў Аляксандр Лукашэнка тых беларускіх палітыкаў, якія негатыўна ставяцца да ідэі будаўніцтва другой ніткі газаправода «Ямал – Заходняя Еўропа» ў абход Украіны.

17 лістапада ў гутарцы з журналістамі прэзідэнт заявіў наступнае: «Калі грамадзянін Рэспублікі Беларусь — ці то апазіцыянер, прыхільнік улады або непрыхільнік — выступае супраць двух мільярдаў долараў інвестыцыяў у нашу эканоміку, як яго называць? Здраднік, здраднік, вораг нашага народа. Іначай не скажаш. Чаму яны супраць выступаюць? Яны ўжо настолькі раззлаваныя і настолькі ненавідзяць свой народ і Лукашэнку, што яны гатовы, вось як па чэшскім крэдыце: хай дохне беларускі народ разам з такім прэзідэнтам... ».

Варта зазначыць, што БелаПАН невядома аб якіх-небудзь публічных выказваннях прадстаўнікоў беларускай апазіцыі, накіраваных супраць ідэі будаўніцтва другой ніткі газаправода праз тэрыторыю Беларусі. Выклікае пытанне і лічба, згаданая прэзідэнтам, — «2 мільярды долараў інвестыцыяў» у беларускую эканоміку. Рэч у тым, што кошт усяго праекта «Газпрама» не перавысіць 2 мільярдаў долараў ЗША. Згодна з заявай генеральнага дырэктара дзяржпрадпрыемства «Белтрансгаз» П.Пётуха, кошт будаўніцтва беларускага ўчастка новага газаправода-перамычкі складае каля 70 мільёнаў долараў ЗША. ■

**БелаПАН**

# Ці вернецца беларускі дыпламат?

Юры СВІРКО

Другая асоба ў амбасадзе Беларусі ў Вашынгтоне — дарадца-пасланнік Аркадзь Чарапанскі — вырашыў застацца ў ЗША. Прэс-сакратар беларускага МЗС Павел Латушка абвяргае паведамленні, што дыпламат папрасіў у Злучаных Штатах палітычнага прытулку, ды заяўляе, што спадар Чарапанскі будзе працаваць у Сусветным банку ў Вашынгтоне.

Прэс-сакратар МЗС РБ Павел Латушка паведаміў, што «міністэрства замежных справаў не мае інфармацыі аб тым, што Аркадзь Чарапанскі, супрацоўнік пасольства Рэспублікі Беларусь у Злучаных Штатах Амерыкі, папрасіў палітычнага прытулку ў ЗША. Аркадзь Чарапанскі завяршае сваю службовую камандзіроўку. У яго дасягнутая дамоўленасць аб працы ў Сусветным банку ў Вашынгтоне. Ніякай размовы пра тое, што Аркадзь Чарапанскі просіць палітычнага прытулку, не можа быць».

— Як даўно дыпламат працаваў у Вашынгтоне і калі павінен быў скончыцца гэты тэрмін?

— Гэты тэрмін якраз заканчваецца ў гэтым месяцы, гэта натуральны працэс, паехаў і супрацоўнік міністэрства замежных справаў, які павінен яго памяняць на гэтым месцы працы. Працаваў у Злучаных Штатах Амерыкі, наколькі я ведаю, каля чатырох гадоў.

— Звычайна дыпламатаў адклікаюць назад у сваю краіну, ці не так?

— Так, пагаджуся з вамі, што звычайная практыка, гэта калі дыпламат вяртаецца на радзіму, афармляе ўсе дакументы, пасля ўжо вырашае свой далейшы лёс – або працаваць у міністэрстве замежных справаў, або працаваць у Беларусі. Я думаю, што гэтае рашэнне, тое, што сп. Чарапанскі не вярнуўся ў міністэрства, можна вытлумачыць хаця б тым, што вельмі далёкая дарога і вельмі дорага яна каштуе.

У часе тэлефоннага інтэрв'ю Паўла Латушкі ў Мінску адбывалася прэс-канферэнцыя Люкі Барбонэ, кіраўніка дэлегацыі Сусветнага банка, якая прыехала ў Беларусь. На пытанне, ці сапраўды Аркадзь Чарапанскі будзе працаваць у ягонай арганізацыі, Люк Барбонэ адказаў гэтак: «Мне нічога пра гэта невядома». ■

# Преступная медицина

Наталья РАДИНА

14 ноября Александр Лукашенко провел совещание с министром здравоохранения и руководителями концернов «Белфармацея», «Белбиофарм» и «Белмедоборудование». После семи часов бурного разбирательства А.Лукашенко назвал ситуацию на рынке фармацевтики и медоборудования «преступной» и пригрозил коррупционерам провести общереспубликанскую инспекцию системы здравоохранения.

Александр Лукашенко поручил комитету государственного контроля взять концерны «Белфармацея» и «Белмедоборудование» под жесткий контроль. По его словам, в течение последних десяти лет производство медпрепаратов для лечения эндокринной системы и органов пищеварения сократилось в 11 раз. В 20 раз уменьшилось производство антибиотиков. За эти годы поставка отечественной продукции снизилась по 107 наименованиям. При этом отечественные медицинские препараты продолжают идти на экспорт, а «Белфармацея» закупает дорогие импортные лекарства.

По данным комитета госконтроля, ОАО «Белмедпрепараты» только за последние семь месяцев увеличило цены на свою продукцию в 4 раза.

Комитет госконтроля нашел немало нарушений в вопросах покупки и поставок медтехники. Проверка концерна «Белмедтехника» выявила, что лечебно-профилактическими учреждениями Беларуси было реализовано более 100 наименований незарегистрированной министерством здравоохранения медицинской продукции на сумму 400 миллионов рублей. Выявлено немало фактов закупки по завышенным ценам устаревшей техники.

На этом же совещании вице-премьер Михаил Демчук пригрозил скорым сокращением льготных категорий населения. «У нас 60% бюджета уходит на льготы и 50% — на бесплатное лечение. Это ненормально! Такого ни одна страна не выдержит! Необходимо отряхнуть от системы здравоохранения все лишнее!»

Услышав, куда уходит 50% бюджета, А.Лукашенко задумчиво заметил: «Надо начинать приучать людей платить за медицинские услуги».

И, наконец, в завершение своего эмоционального спича, состоявшего из одних «почему?» и угроз в адрес перепуганных чиновников, А.Лукашенко пообещал к июлю 2001 года увеличить зарплату социальным работникам до 100 долларов. Аккурат к президентским выборам. ■

# Дзе жыве Лукашэнка?

Юрась ХМЯЛЬНІЦКІ

Партызанскі раённы суд Мінска адмовіўся прыняць іск лідэра Аб'яднанай грамадзянскай партыі Анатоля Лябедзькі да Аляксандра Лукашэнкі. Адмову прыняць іск у судзе патлумачылі тым, што Аляксандр Лукашэнка ў Партызанскім раёне не жыве.

15 кастрычніка, падчас другога тура галасавання на выбарах у палату прадстаўнікоў, А.Лукашэнка абвінаваціў старшыню АГП у тым, што ён атрымаў з Захаду праз кансультатыўна-назіральную групу АБСЕ 1.500 долараў. А.Лябедзька расцаньвае гэтую заяву як абразу гонару і годнасці і спрабуе праз суд спагнаць маральны ўрон. Суму кампенсацыі палітык ацаніў у тыя ж 1.500 долараў, якія ён плануе перадаць на рахунак фонду дзяцей–інвалідаў па зроку.

Старшыня АГП плануе падаваць іскі і ў іншыя раённыя суды Мінска. «Грамадзяне Беларусі маюць права ведаць, дзе жыве пан Лукашэнка. Калі ён бомж ці грамадзянін іншае краіны, то пра гэтае трэба заявіць публічна», — рэзюмаваў А.Лябедзька. ■

# Супердзяржавам канец

## Расія, ЗША і Кітай не перажывуць XXI стагоддзе

Міхась КАРПОВІЧ

**Цікавае даследаванне правялі львоўскія навукоўцы. Паводле яго, у наступным стагоддзі адбудзецца кардынальнае змяненне этнапалітычнай мапы свету, паведаміла агенцтва «Интерфакс».**

Кнігу «Этнапалітычная мапа свету XXI стагоддзя» падрыхтаваў да друку аналітычны цэнтр «Поступ» пад кіраўніцтвам дырэктара Цэнтра інфармацыйных праблемаў тэрыторыяў Нацыянальнай акадэміі навук Украіны Пятро Жука.

На думку навукоўцаў, Расія, ЗША, Вялікабрытанія і Кітай маюць шмат унутраных праблемаў і супярэчанняў, з-за чаго ім пагражае паступовы распад. Сярод асноўных прычынаў гэтых працэсаў – сталая барацьба за рэсурсы і супярэчанні этнічнага характару.

Найбольшая колькасць праблемаў, у адпаведнасці з прагнозам, чакае Расію, тэрыторыя якой стане асновай для некалькіх дзесяткаў этнанацыянальных утварэнняў, найбольшым з якіх стане Рэспубліка Саха (Якуція). Уласна Расіяй будзе называцца невялікая частка рубяжоў каля Масквы.

Паўночна-заходнія расійскія землі – Мурманская, Архангельская, Валагодская, Ленінградская, Наўгародская, Пскоўская вобласці і Рэспубліка Карэлія ўвойдуць у склад Паўночнай Русі са сталіцай у Санкт-Пецярбургу.

Вялікабрытанія распадзецца на 3 самастойныя часткі – Англію, Шатландыю і Ўэльс. Паўночная Ірландыя нарэшце далучыцца да Рэспублікі Ірландыя.

Сур'ёзныя змяненні адбудуцца і ў Кітаі, ад якога адздзеляцца Тыбет, Джунгарыя і Манчжурыя. ЗША распадуцца мінімум на 10 невялікіх дзяржаваў.

Што датычыць Украіны і Беларусі, то яны мусяць застацца ў XXI стагоддзі ў цяперашніх межах.

У прадмове да выдання ягоныя аўтары зазначаюць: «Працэсы ў свеце адбываюцца, незалежна ад жадання ўплывовых палітычных лідэраў. Прагназуючы змяненні на палітычнай мапе свету, мы спрабавалі паказаць аб'ектыўныя працэсы, а не закансерваваць існуючую сітуацыю. Апроч таго, на прапанаванай намі мапе адбітыя не межы дзяржаваў, а межы этнадзяржаўных утварэнняў». ■

# Журналіста забілі за кампрамат?

Расціслаў ПЕРМЯКОЎ

**Ва Украіне забіваюць журналістаў. Менавіта такі лёс, хутчэй за ўсё, напаткаў вядомага ўкраінскага журналіста, кіраўніка інтэрнет-праекта «Украïнська правда» Гію (Георгія) Гангадзэ.**

Георгій Гангадзэ знік на вуліцы Кіева 16 верасня гэтага года. У пачатку лістапада ў Тарашчанскім раёне Кіеўскай вобласці было знойдзенае цела чалавека, якое магло належаць Г.Гангадзэ. Дакладна ідэнтыфікаваць цела не ўдалося – галава ў трупа была адрэзаная. Рукі і ногі знаходзіліся ў апошняй стадыі разлажэння. Калі калегі і родныя журналіста паспрабавалі вывезці цела з морга ў Кіеў, яно раптам знікла. Невядомыя людзі паспелі забраць труп раней.



31-гадовы журналіст Георгій Гангадзэ ачольваў інтэрнет-праект «Украïнська правда». Нягледзячы на свой даволі малады ўзрост, Гія шмат паспеў зрабіць. Нарадзіўшыся ў Тбілісі, ён скончыў Львоўскі дзяржаўны універсітэт, кіраваў інфармацыйным аддзелам Народнага Фронту Грузіі (1989), супрацоўнічаў з незалежнай львоўскай газетай «Пост-Поступ» (1991), вёў перадачы на мясцовым і нацыянальным тэлебачанні (1992-1998), стаў кіраўніком інфармацыйнай службы «Вільна хвиля» на радыё «Кантинент». Ён таксама быў аўтарам дакументальных фільмаў «Быль зямлі», «Цені вайны», «Калыска» і «Абаронцы мроі».

Але галоўнай ягонай справай была менавіта «Украïнська правда». Праект выходзіў у інтэрнеце, таму што на сёняшні дзень ва Украіне там куды прасцей размяшчаць інфармацыю, чым на паперы. Практычна ўсе грамадска-палітычныя газеты падзеленыя паміж мясцовымі алігархамі. Можа, яны і не настолькі ўплывовыя, як у Расіі – маюць не столькі грошай, але ім заўсёды хапае сродкаў, каб разлічыцца з няўгоднымі ім людзьмі.

«Украïнська правда» рэгулярна змяшчала матэрыялы, якія тым ці іншым чынам датычылі прэзідэнта Леаніда Кучмы і ягонага бліжэйшага атачэння. Напрыклад, 5 верасня «Украïнська правда» перадрукавала матэрыял расійскага незалежнага журналісцкага бюро FLB «Волкаў без авечай скуры», які распавядаў пра сувязі аднаго з буйнейшых алігархаў Украіны Аляксандра Волкава з крымінальным асяроддзем. У свой час гэты чалавек ачольваў перадвыбарчы штаб Леаніда Кучмы, а потым стаў дэпутатам Вярхоўнай Рады, кіраўніком фракцыі «Адраджэнне рэгіёнаў». Матэрыял выклікаў шок украінскай эліты, а праз некалькі дзён Гію Гангадзэ проста не пусцілі на прэс-канферэнцыю А.Волкава. Цікава, што ў інтэрв'ю газеце «День» алігарх зазначыў, што ён «не зайздросціць тым, для каго Волкаў – праблема...У жыцці такіх людзей заўсёды ёсць месца для подзвігу...»

15 верасня аўтар матэрыяла пра А.Волкава з-за пагрозаў мусіў разам з сям'ёй пакінуць Украіну. А 16 верасня таямніча знік Гія Гангадзэ.

Натуральна, што «версія Волкава» – толькі адна з многіх. Вядома, што не сябравала «Украïнська правда» і з алігархам Суркісам, і з алігархам Мядзведчуком...

У суботу, 16 верасня, у 22.20 Георгій Гангадзэ выйшаў з будынка на бульвары Лесі Украінкі і пайшоў дадому. Ён ведаў, што хутка мусіла вярнуцца дахаты ягоная жонка Міраслава з трохгадовымі дочкамі-блізнятамі, і ў іх не было ключоў. Таму вярнуцца яму было проста неабходна. Тым не менш, у той вечар Георгій Гангадзэ так дома і не з'явіўся. Званкі ў міліцыю, шпіталі і моргі вынікаў не далі.

18 верасня калегі і родныя пачалі афіцыйныя пошукі Г.Гангадзэ. 20 верасня па факце знікнення журналіста была распачатая крымінальная справа па артыкуле «наўмыснае забойства». Прэм'ер-міністр Віктар Юшчанка патрабаваў ад міністэрства ўнутраных справаў і Службы бяспекі Украіны штодзённа рапартаваць яму пра ход пошукаў.

З таго часу і да пачатку лістапада – ніякай дакладнай інфармацыі. Нейкі зрух адбыўся толькі 6 лістапада. Калегі Георгія на чале з галоўным рэдактарам «Украïнськой правди» Аленай Прытулай вырашылі праверыць інфармацыю прадстаўнікоў МУС, што нібыта ў Тарашчанскім раёне Кіеўскай вобласці 2 лістапада быў знойдзены труп, які мог належаць Г.Гангадзэ. Цела знаходзілася ў лесапаласе, у 30 метрах ад трасы, закапанае на глыбіню да 1 метра.

У моргу раённага шпіталя журналістам быў прад'яўлены для апазнання труп. Па словах А.Прытулы, апазнаць цела было немагчыма – яно было абезгалоўленае. Мясцовыя судмедэксперты таксама сцвярджалі, што цела было адмыслова апрацаванае хімічнымі рэчывамі, каб паскорыць працэс разлажэння.

Адзін з экспертаў, які аглядаў труп, дакладна апісаў журналістам срэбны браслет, а таксама талісман і пярсцёнак, якія насіў Георгій Гангадзэ. Усе гэты рэчы былі знойдзеныя на целе і нібыта адразу перапраўленыя ў Кіеў. Журналісты ўпэўненыя, што гэта рэчы Г.Гангадзэ.

Па патрабаванні калегаў Георгія і ў іх прысутнасці быў зроблены рэнтгенаўскі здымак рукі, на якім, на думку экспертаў, ёсць пацвярджэнні наяўнасці ў руцэ металічных аскепкаў, магчыма – аскепкаў ад гранаты. Вядома, што падчас асвятлення канфлікту ў Абхазіі ў 1992 годзе Гія Гангадзэ атрымаў аскепкавыя раненні рук.

Эксперты таксама сцвярджалі, што ў страўніку трупа засталіся часткі такой самай ежы, што еў перад знікненнем Г.Гангадзэ.

Па выніках судмедэкспертызы журналісты атрымалі пасведчанне аб смерці Георгія Гангадзэ. І тут пачалося самае неверагоднае.

«Пакуль мы шукалі труну і машыну для перавозкі цела ў Кіеў, на што быў атрыманы дазвол мясцовых праваахоўных органаў, цела было звезенае з морга невядомымі людзьмі ў невядомым накірунку. Патлумачыць знікненне цела нам не змаглі ні ў Тарашчанскай пракуратуры, ні ў РАУСе», — паведаміла А.Прытула.

Больш за тыдзень нічога не было вядома пра лёс цела, вывезенага з Тарашчы. І толькі нядаўна сітуацыя стала праясняцца. У апошнім нумары ўкраінскага выдання «Зеркало Недели» са спасылкай на «надзейныя крыніцы», сцвярджаецца: цяпер цела знаходзіцца ў адным з моргаў Кіева. Усе даследаванні яго былі пачатыя не раней за мінулы чацвер, у прыватнасці – тэст на ДНК, аналіз крыві і г.д. Нейкія вынікі стануць вядомыя не раней, чым праз паўмесяца.

Спадзяванні пакідаюць толькі сцвярджэнні экспертаў (нідзе афіцыйна не агучаныя), што нібыта цела належыць чалавеку ніжэйшага росту, чым Гія (Георгій) Гангадзе. ■

# Назарбаев уволил всю милицию

В Казахстане отправлены в отставку все руководители правоохранительных органов столичной Акмолинской области республики. Такое решение принял республиканский штаб по борьбе с организованной преступностью и коррупцией, сообщает «Эхо Москвы».

Основанием для такого решения стали участившиеся факты нарушений конституционных прав граждан сотрудниками органов внутренних дел.

Органы прокуратуры в текущем году возбудили 65 уголовных дел по фактам нарушения конституционных прав граждан в Акмолинской области, из них четыре уголовных дела по фактам изнасилования, совершенным сотрудниками внутренних дел.

По данным «Интерфакса», от своих должностей освобождены начальник управления внутренних дел Акмолинской области Казахстана, заместитель начальника УВД по воспитательной работе, ряд руководителей районных отделов внутренних дел, в частности, РОВД Кокчетава (административный центр области) и Щучинска. ■

# Испанская полиция арестовала 17 литовских мафиози

Испанская полиция арестовала 17 человек, входящих в литовскую мафиозную группировку «Паневежис». При этом полицией задержан также испанский предприниматель, которого обвиняют в нарушении закона о труде, так как он использовал сильно низкооплачиваемую рабочую силу, которой его обеспечивала группа «Паневежис». Преступники из «Паневежиса» ввозили из Литвы граждан этой республики, желающих заработать в Испании на сезонных работах, сообщает АР. ■



● Амаль уся пяцімільённая Грузія засталася без святла ў пятніцу ў выніку аварыі энергетычнай сістэмы. Тысячы людзей выйшлі на вуліцы, каб выказаць пратэст супраць сістэматычных адключэнняў электрычнасці, у выніку якіх знікае святло, перастае працаваць водаправод і каналізацыя. Прэзідэнт Эдуард Шэварднадзэ паабяцаў выправіць сітуацыю праз тыдзень-два. А пакуль што для вучобы даводзіцца карыстацца свечкамі.

# Оппозиция против полиции

В городе Шеки на севере Азербайджана произошли столкновения между полицией и демонстрантами, протестовавшими против фальсификации результатов парламентских выборов 5 ноября. В результате столкновений получили ранения 15 человек, в том числе несколько полицейских. По официальным данным, демонстранты напали на районное управление полиции и другие административные здания. Организованные оппозицией демонстрации состоялись также в других городах Азербайджана. В Баку в манифестации приняли участие около 15 тыс. человек. Сторонники пяти оппозиционных партий заявляют, что результаты выборов были подтасованы и требуют провести новые выборы. Международные наблюдатели также отмечают случаи нарушения процедуры голосования. По официальным данным, за партию «Новый Азербайджан» президента Гейдара Алиева проголосовали 62% избирателей, сообщает радиостанция «Свобода». ■

# Пераможца конкурсу прыгажосці аказалася мужчынам

Пераможца конкурсу прыгажосці, які праводзіўся ў Таіландзе, была вымушаная адмовіцца ад сваёй кароны пасля таго, як высветлілася, што яна – мужчына. Знешнасць дваццацідвухгадовай Кесарапорн Дуангсаван зачаравала журы штогадовага конкурсу прыгажосці, які праходзіў у правінцыі Ратчабуры ў гэтым месяцы, і ёй быў прысуджаны громкі тытул «каралевы прыгажосці» і грашовая прэмія ў памеры 140 долараў. Аднак пільныя саперніцы «каралевы» хутка западозрылі нядобрае і данеслі ў паліцыю. Няўдалай «лаўрэатцы» прыйшлося вярнуць прыз арганізатарам конкурсу пасля таго, як «яна» прызналася, што адносіцца да моцнай паловы чалавецтва. Конкурс прыгажосці



вельмі папулярны ў Таіландзе, дзе ёсць нават спецыяльнае спаборніцтва для прыцягальных таўстушак. Аднак упершыню каралевай аказваецца мужчына. Зрэшты, для трансвесцітаў і транссексуалаў з усяго свету на папулярным курорце Паттайя праводзіцца спецыяльны конкурс прыгажосці. ■

# Ціхае жыццё пісьменніцкай масы

У нумары за 14 лістапада НАША СВАБОДА змясціла інтэрв'ю намесніцы старшыні СБП Вольгі Іпатавай. Драматычная назва – «Здзяйсняюцца запаветы Мураўёва-вешальніка...» – заахвочвае да чытання. Але ўважліва прачытаўшы, шчыра прызнаюся, быў надта расчараваны зместам інтэрв'ю. Вольга Іпатава – вядомая пісьменніца, яе творчасць любяць і вывучаюць у школе. Але ж у дадзеным выпадку яна выступала ў якасці грамадскай дзеячкі — прадстаўляла Саюз літаратараў, ва ўсялякім разе, як найменей яго кіруючую Раду. Аднак ніводнае пытанне, адрасаванае карэспандэнткай да В.Іпатавай як ачольніцы Рады, не атрымала, на маю думку, ясны адказ, а ўсё неяк трактавалася традыцыйна цьмяна, каб нікога не закрануць, не назваць іменаў, не мець зразумелай кожнаму вызначанасці.



Прыкладам, намесніца старшыні СБП тлумачыць, што пайшла на «грамадска-палітычны дыялог», бо лічыць патрэбным «выкарыстоўваць кожную трыбуну для таго, каб давесці і да грамадства, і да ўлады свае погляды». Як гэтаму паверыць? Грамадства пра тое, што рабілася за гэтым «круглым сталом», ведала выключна з інтэрпрэтацыяў дзяржаўнага тэлебачання і блізка не чула, што апавядалі там пра свае погляды пісьменнікі. І каму Рада СБП вуснамі В.Іпатавай апавядала «пра нашу цвёрдую веру ў незалежнасць Беларусі, і аб тым, што трэба неадкладна вярнуць нашы старажытныя сімвалы – Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг, хай на сённяшні час і ў якасці гістарычнай сімволікі». Можна ўявіць сабе тую мізэрную ступень увагі, з якой слухалі прамову пра незалежнасць, Пагоню і бел-чырвона-белы сцяг спадары Посахаў, Заматалін ці Лукашэнка. Няўжо Рада СБП верыла ў карысць свайго слова ў гэтакай антыбеларускай аўдыторыі? Чаго ж было ісці ганьбавацца, каб зрабіць ласку ворагам беларушчыны і легалізаваць палітычна неабходнае рэжыму мерапрыемства?

Не верыцца мне, што на такі «дыялог» пайшлі, калі б былі жывыя, Уладзімір Караткевіч ці Алесь Адамовіч. І з жывых, дзякаваць Богу, не пайшлі ствараць масоўку многія людзі.

Зразумела, я не ведаю ўсіх узаемаадносінаў сярод пісьменнікаў, хаця бываю амаль на ўсіх творчых вечарынах, што адбываюцца ў Доме літаратараў. Часта літаратары скардзяцца, што адабралі ў іх іхны ўтульны Дом і пісьменнікі ўжо ў ім не гаспадары, а месцяцца з прэзідэнцкага дазволу. Мае знаёмыя настаўнікі і я сам трымаемся іншай думкі: было б лепш, каб Саюз пісьменнікаў з самага пачатку прэзідэнцкага ўціску пакінуў бы гэты Дом. Зняў бы дзе тры пакойчыкі. Сядзелі б шчыльна, без залы, без кабінетаў, але набыў бы Саюз сапраўдную павагу, паразуменне, духоўны аўтарытэт. Не прыйшлося б Радзе скардзіцца, што мала чытаюць твораў беларускай літаратуры. Атрымалася ж самае непрыемнае: бачна, што няма ў пісьменніцкіх масаў самапавагі. Шкада згубіць маёмасць.

Бессэнсоўна цяпер жаліцца людзям: кнігі не друкуюць, ганарары малыя. А ў каго ў нашай краіне заробкі вялікія? Якога спачування ад беднага насельніцтва мае чакаць рахманы творца? Няўжо ў Радзе СБП сур'ёзна гавораць, што пісьменніку зараз так горасна, што ён змушаны жыць з падсобнай гаспадаркі. Відаць, маюцца на ўвазе дачная бульба ды цяплічныя агуркі. Але ж многія і гэтага не маюць. І хіба гэта праява сялянскасці для годнага чалавека? Здаецца, у цяжкую часіну прыйшлося так гаспадарыць дзеля выжывання і Івану Буніну, і Андрэю Платонаву, а з нашых – большасці. Ды не сталі лічыцца з гэтай прычыны сялянамі, бо мелі моцны творчы дух і чытача запалялі не толькі напісаным на паперы словам, але і асабістым прыкладам шляхетнасці. А сялянскае і ў нас, і ў нашых пісьменнікаў – прыніжанасць, гатоўнасць цярпець, гной нюхаць, абы не пайсці на абвостраны канфлікт. Вось і Рада СБП церпіць, ходзячы на «дыялог» у Палац Рэспублікі, а за яго сценамі дазваляе сабе мысленныя маналогі. Наогул такое часам ахоплівае ўражанне, што няма СБП, што сядзіць ён у кутку ў чужым доме, аднятым уладай, напаўжывы і безгалосы. Ці то ў летаргіі, ці то, можа, у коме.

Вядома, пісьменнікі ў сілу прафесіі не могуць быць аднадумцы. Дык нашто тады ратаваць саюз рознадумцаў, які нічога не мае і нічога не можа? Няўжо, як вынікае з інтэрв'ю, каб перашкаджаць графаманам друкавацца за ўласны кошт? Ды і як «высокапрафесійнае аб'яднанне літаратараў» гэта зробіць? Праз літаратурную крытыку? Ці ўзорамі сваёй творчасці? Але ў апошні час занадта мала бачым такіх узораў. Выціскае іх дзяржаўная русіфікацыя. Нашто ж з асцярожнасцю казаць: «нібыта спаўняюцца запаветы Мураўёва-вешальніка». Яго запаветы даўно споўніліся. Зараз спаўняюцца куды больш жорсткія планы яго паслядоўнікаў, ачоленых Замяталіным, Посахавым і А.Лукашэнкам. Няўжо Рада не ведае, хто ў Маскве па-гусарску біў крышталь на пірушцы за абвешчаную РусаБелію? І што пісьменніцкая маса? Пратэстуе, стоячы ў пікеце? Не, ціха і паслухмяна ідзе на «дыялог». Дык чаму еўрапейцам не адчуваць да нас, беларусаў, пагарды, калі міністры не гавораць на роднай мове, а творцы (не толькі пісьменнікі і паэты, але музыканты і спевакі, рок- і фолькгурты) не маюць смеласці адмовіцца ад саноўнага загада аздабляць мерапрыемствы, ад прэміі, якую выдае ўлада, ад удзелу ў святах, неабходных рэжыму, падманваючы сябе і простых людзей развагамі, што сваім удзелам прапагандуюць беларускую культуру. ■

**Мікола ШКЛЯР, настаўнік літаратуры, Мінск**

*Друкуецца ў скароце*

**Рэдакцыя прапаноўвае сваім падпісчыкам аформіць падпіску праз аддзяленні «Беларусбанка».**

**Для афармлення падпіскі адпаведную квітанцыю (гл. ніжэй) трэба выразаць нажніцамі. Адзначце ў квітанцыі тэрмін, на які афармляеце падпіску, прозвішча падпісчыка і паштовы адрас, на які дастаўляць газету.**

**Кошт падпіскі на адзін месяц 675 руб. Калі вы жадаеце падпісацца на большы тэрмін, то павялічце суму ў адпаведную колькасць разоў.**

## КВІТАНЦЫЯ ДЛЯ «БЕЛАРУСБАНКА»

Форма № ПД-5

**ИЗВЕЩЕНИЕ**

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество)

(индекс) (адрес)

На 2000 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

| За подписку на газету «Наша СВАБОДА» | Сумма |
|---|---|
| | |
| Пеня | |
| Плательщик Всего | |

Кассир

УНН 101562750 Редакция газеты «Наша СВАБОДА»
получатель платежа
Отделение «Центральное» ОАО «Белбизнесбанк»
г.Минск, код 493; Минск, пл.Свободы, 17
наименование банка

Счет получателя 3012205160015 Лицевой счет

(фамилия,имя,отчество, адрес)

На 2000 год по месяцам:

| 1 | 2 | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 | 10 | 11 | 12 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | | | | | | | | | | |

**КВИТАНЦИЯ**

| За подписку на газету «Наша СВАБОДА» | Сумма |
|---|---|
| | |
| Пеня | |
| Плательщик Всего | |

Кассир

# Беларускія палякі не захацелі графа Прушынскага

Сяргей МАКСІМОВІЧ

**18-19 лістапада ў Гродне адбыўся V надзвычайны з'езд грамадскага аб'яднання «Саюз палякаў Беларусі». Новым старшынём абраны 39-гадовы Тадэвуш Кручкоўскі. Ён — супрацоўнік Гродзенскага дзяржуніверсітэта імя Янкі Купалы, кандыдат гістарычных навук. Сп. Кручкоўскі знаходзіцца ў разводзе, мае сына.**

126 тысяч рублёў — такі заробак старшыні СПБ. У Саюзе палякаў на платных пасадах знаходзяцца 59 чалавек, сярэдні заробак — 53 тысячы рублёў. Гэтыя звесткі можна было пачуць на з'ездзе. З 1997 года ў Гродне колькасць ахвотных уступіць у СПБ зменшылася больш як удвая, амаль палова гродзенскіх сябраў не плаціць членскія складкі. Аднак у Саюзе 25 тысяч сябраў, аддзелы створаныя ў большасці раёнаў Беларусі. Існуе 10 «Дамоў палякаў». У пяці з шасці абласцей краіны рэгулярна праводзяцца фестывалі польскай песні. Існуюць дзве школы з польскай моваў навучання. Аднак сёлета ў такую школу ў Гродне было пададзена толькі 19 заяваў ад бацькоў першакласнікаў. З цяжкасцю ўдалося сфармаваць адзін клас, а ў 1996 годзе іх было чатыры.

Галоўнай інтрыгай з'езда былі перавыбары старшыні Саюза, якім ад самага пачатку кіраваў Тадэвуш Гавін, які яго стварыў. Улетку сп. Гавін раптам падаў у адстаўку. Скандалам стала часовае прызначэнне на пасаду старшыні Юзафа Парэцкага. Польская памежная служба забараніла яму сёлета ўезд у Польшчу, паставіўшы ў пашпарт адпаведную пячатку. Лічылася, што Гавін зноў выставіць сваю кандыдатуру. Але ён адразу заявіў, што болей не будзе прэтэндаваць на гэтую пасаду. Непрыяцелі спрабавалі крытыкаваць Гавіна, нават абвінавачваючы ў аўтарытарнасці. Аднак крытыка на з'ездзе гучала прыглушана. Спадару Гавіну нават праспявалі «Сто лят!» і надалі званне «Ганаровага старшыні СПБ». Адзін з прамоўцаў сказаў, што Гавіну паставяць пры жыцці помнік каля будынка Саюза — побач з бюстам Адама Міцкевіча. А адну з вуліцаў — 17 верасня і Дзяржынскага, на скрыжаванні якіх стаіць будынак, назавуць яго імем. Тым не менш стваральніка Саюза палякаў нават не ўвялі ў новы склад Галоўнай рады гэтай арганізацыі.

На выбары новага старшыні было вылучана напачатку ажно 10 кандыдатураў, у тым ліку і кандыдатура Т.Гавіна. Аднак ён адразу адмовіўся. Адмовіўся балатавацца і Ю.Парэцкі, хаця зала скандзіравала ягонае прозвішча. У рэшце рэшт засталіся тры кандыдатуры. Выбралі Т.Кручкоўскага, які быў прыхільнікам Ю.Парэцкага. Новы старшыня набраў 174 галасы, супраць было 77. Шматгадовы намеснік старшыні Саюза Т.Малевіч атрымаў толькі 54 галасы «за», а граф А.Прушынскі — усяго 6. Каб апошні прапанаваў залатыя горы, магло б быць інакш. Аднак ён сказаў, што хопіць спадзявацца на польскія грошы, я вас саміх навучу зарабляць. А каму гэта спадабаецца, пагатоў сярод дэлегатаў было нямала старых. Выбары закончыліся позним суботнім вечарам.

Выступ Т.Кручкоўскага грунтаваўся на крытыцы кіравання Саюзам Т.Гавіным. Беларускія ўлады лічылі СПБ апазіцыйнай арганізацыяй. Спадар Гавін актыўна ўдзельнічаў у дзеяннях апазіцыі на мясцовым узроўні, адначасова ваяваў з уладамі за інтарэсы палякаў. Гэта было немалаважным для таго, каб улады дэмакратычнай Польшчы падтрымлівалі СПБ фінансава. Новы старшыня адразу заявіў, што ніякага палітычнага змагання больш не будзе. Не будзе таксама ніякага супрацоўніцтва з апазіцыяй, якая, маўляў, называе палякаў «беларусамі-каталікамі». Замест гэтага Т.Кручкоўскі збіраецца шчыльна супрацоўнічаць з беларускімі ўладамі. Польскія каментатары адразу адзначылі, што гэта можа прывесці да залежнасці СПБ ад уладаў РБ.

Трэба адзначыць, што Т.Кручкоўскі ў сваіх шматлікіх публікацыях, у якіх закранаецца гісторыя Беларусі і беларускіх палякаў, настойліва выказвае погляды, блізкія да тэорыяў вельмі жорстка і непрыхільна настроеных да беларусаў польскіх гісторыкаў. Ён сцвярджае, што быццам бы большасць вясковага насельніцтва Гродзеншчыны з'яўляецца палякамі. І вось «на іх плячах трымаецца ў значнай ступені харчаванне ўсяго насельніцтва Беларусі». Карацей кажучы, палякі кормяць Беларусь! Хай жа цяпер беларускія ўлады кормяць Саюз палякаў, паколькі Польшча ўжо істотна зменшыла грашовую дапамогу. ■

# «Гаворыць Мінск!» Ратуйце вашы вушы!

Кірэй МАНУЙЛА

Першы раз словы «Гаворыць Мінск!» прагучалі 15 лістапада 1925 года. Тады Беларускае радыё вяшчала ўсяго паўгадзіны на суткі. У сталіцы было 200 радыёпрыёмнікаў, размешчаных па клубах. Зараз гэта 39 гадзінаў эфіру на дзень па дзвюх нацыянальных праграмах. Пры гэтым дзяржаўнае радыё ў Беларусі ці не самая адыёзная і падцэнзурная мас-медыя. Нават на БТ не ўсё так закансервавана і завінчана.

Кіруе гаспадаркай на Чырвонай,4 Уладзімір Ядранцаў. Апынуўся ён на пасадзе старшыні Дома радыё адразу пасля прэзідэнцкіх выбараў: так А.Лукашэнка аддзячыў Ядранцаву за эфір, якога той багата яму даваў у сваіх перадачах падчас выбарчай кампаніі 1994 года. І Ядранцаў, ператвараючы радыё ў ідэалагічную машыну, зашчыраваў, прычым да таго, што радыёжурналісты ўжо некалькі разоў прымалі заявы аб недаверы шэфу. Нейк нават у адміністрацыю прэзідэнта пісалі. Тады ўлагоджваць канфліктную сітуацыю прыехаў ажно сам Іван Пашкевіч. Пасля «разборак» стала зразумела, што Ядранцаў будзе ачольваць радыё датуль, пакуль будзе трымацца цяперашні ўладны рэжым. А якім будзе заставацца Беларускае радыё надалей увесь гэты час, здагадацца проста. На нядаўнім з'ездзе Саюза журналістаў ягоны кіраўнік сказаў: «Мы – найпершыя памочнікі кіраўніцтва нашай дзяржавы».

Дзеля гэтага тут уведзеная татальная цэнзура. З'явіліся пасады нейкіх «куратараў», якія праглядаюць змест кожнай перадачы, і без іхняга подпісу яна не можа патрапіць у эфір. Даходзіць да анекдатычнай паталагічнасці. Сёлета да Вялікадня мелася прагучаць перадача пра Святога Луку. Тое ўпільнаваў галоўны цэнзуршчык, сам Ядранцаў: «Вы на кого намекаете?» І перадача не прайшла.

Яшчэ з пары існавання Вярхоўнага Савета 13-га скліканьня негалосна дзейнічае «чорны спіс» палітыкаў, якіх нельга пускаць у эфір. Пры гэтым даводзіцца, што іх заўжды запрашаюць, а яны самі якраз не хочуць прыходзіць. Статус непажаданых гасцей студыяў на Чырвонай, 4 прылеплены і да некаторых пісьменнікаў. Нельга згадваць імя паэткі Геніюш. Строга табуаванымі сталі словы «спадар» і «травень». Беларускай мовы паціху пазбаўляюцца. Напрыклад, радыёстанцыя «Сталіца», якая вяшчае 12 гадзінаў на дзень на FM-хвалях, апошнім часам пачала падаваць навіны па-руску.

Правай рукой Уладзіміра Ядранцава ёсць Ніна Чайка, асоба на радыё кшталту Аляксандра Зімоўскага на БТ. Яе называюць «шэрым кардыналам радыё». Кажуць, што падчас натаўскіх бамбардзіровак Югаславіі Чайка настойвала на тым, каб прыбраць з эфіру ўсю англамоўную музыку.

Да юбілейнай даты Беларускага радыё, апрача адной на ўсіх «Падзякі Прэзідэнта», Ніна Чайка атрымала персанальную ўзнагароду – нейкі ордэн. Яна ў кожнай аўтарскай перадачы, хай то «Святло праваслаўя» ці «Размова па сутнасці», стараецца засведчыць выключную прыязнасць да Аляксандра Лукашэнкі і ягонага атачэння. Напрыклад, звоніць якая-небудзь Марыя Іванаўна (тут адмысловая слухацкая аўдыторыя) і прамаўляе: «Я дужа люблю і паважаю прэзідэнта, я за яго галасавала, ён стараецца, а гэтыя шушкевічы і пазьнякі, да якой пары яны будуць здзекавацца з народа?» Ніна Чайка шчаслівая і расчулена: «Марыя Іванаўна! Вы ўсё правільна кажаце, дай вам Бог здароўя!» Калі ж падчас тэлефанавання задаецца пытанне злабадзённага зместу, як кажуць, у вока, вядучая з госцем-аднадумцам «Размовы па сутнасці» яго загаворваюць. Бывае, што пасярод такога пытання «абрываецца» тэлефонная сувязь.



А неяк у размове са старшынёй Цэнтрвыбаркама Лідзіяй Ярмошынай Чайка хвалілася, што галасаваць на выбары ў «палату», як на крылах, неслася ажно тройчы: з іх 2 разы датэрмінова, але няўдала, бо ўчасткі былі яшчэ зачыненыя.

На 75-годдзе на радыё задаволіліся падзякай і канцэртам у канцэртнай зале «Мінск», грашовых прэміяў не дачакаліся. Зарабляюць на радыё ў сярэднім па 30-50 тысячаў рублёў. Як тое і ў АТН на тэлебачанні, больш прыстойныя зарплаты ў інфармацыйных рэдакцыях – каля 100 долараў. Да юбілею ў будынку на Чырвонай,4 зрабілі толькі новы ліфт, еўрарамонт калідораў і асобных памяшканняў. На сустрэчы з радыёжурналістамі ў сваёй рэзідэнцыі з нагоды юбілею Лукашэнка падзякурнаму паабяцаў будаўніцтва Дома гуказапісу, абнаўленне спрэс зношанага тэхнічнага абсталявання, адкрыццё карпунктаў па-за межамі Беларусі.

Тады ж 15 лістапада радыйшчыкі даведаліся з яговых словаў, што іх слухаюць ажно 80% беларусаў. Перабольшванне відочнае, але, што праўда, рэйтынг слухальнасці беларускага радыё вышэй за астатнія нашы радыёстанцыі разам узятыя. Пераважна за кошт радыёкропак праз цэнтральную праваднную сетку, бо з цяжкасцю ўяўляецца, як людзі круцяць радыёпрыёмнік, шукаючы хвалю цягамотнага дзяржаўнага радыё. Людзі слухаюць радыёкропку як мэтанакіравана, гэтак і міжволі. Яшчэ з савецкіх часоў захавалася такая завядзёнка, што ў многіх радыё ўключанае пастаянна і працуе цэлы дзень: у кватэрах як суправаджэнне да хатніх справаў і як будзільнік, калі а 6-ай раніцы грыміць бээсэсэраўскі гімн; на працы – разняволіцца ў перапынак на абед.

Зараз па краіне засталося блізу 3 мільёнаў радыёкропак. Прычым іх колькасць стала скарачаецца. Людзі досыць часта звяртаюцца да камунальных службаў прыбраць ад іх «прымусовае» радыёвяшчанне, бо яно ім непатрэбнае. Нават нягледзячы на тое, што каштуе танна — 105 рублёў на месяц.

Тым часам у наступным годзе ўладальнікі радыёкропак могуць рыхтавацца да таго, што на іхнія вушы абрынецца яшчэ болей ідэалагічнага смецця. Увосень чакаюцца прэзідэнцкія выбары, і Беларускае радыё мусіць безальтэрнатыўна абслугоўваць Аляксандра Лукашэнку. ■

# Нет пристанища «Гобелену века»

Наталья РАДИНА

**Работая над «гобеленом века», художник Александр Кищенко любил восклицать: «Каким же счастливчиком будет тот, кто будет иметь этот гобелен!» Но пока счастливчика не находится, и на гобелен зарится моль, которая может уничтожить то, что по замыслу художника должно было прославить Беларусь.**

Александр Кищенко умер 3 года назад. В течение жизни он создал более 400 полотен и около 50 гобеленов. Визитной карточкой художника-монументалиста стали фреска «Партизаны» на столичной гостинице «Турист», гобелен «Чернобыль», подаренный суверенной Беларусью в 1991 году ООН.

В 1990 году художник записал на диктофон следующее: «Наступил момент, когда я захотел сделать гобелен независимо ни от каких заказов. Свой собственный «гобелен века». Сегодня маленькая Беларусь может заявить о себе миру только чем-то очень большим. Благодаря моему гобелену она может стать малым, вместившим в себя огромное». В чем-то художник оказался прав – в 1999 году его гобелен вошел в Книгу рекордов Гиннесса.

Кищенко работал над «гобеленом века» 5 лет. Более двух лет его вручную ткали 14 ткачих Борисовского комбината прикладного искусства. Спонсировала работу над гобеленом частная галерея «Штандарт». Гобелен площадью в 266 кв.м весит 286 кг. Его длина 19 м, ширина 14 м. Кищенко называл гобелен «моей тайной вечерей», «храмом, в котором мы живем». Христос на гобелене соседствует с Шагалом, Дали и Пикассо, Антихрист — с Лениным, Сталиным и Гитлером. Ангелы берут интервью у Миттерана, Клинтона и Гельмута Коля. Попал на «гобелен века» и Александр Лукашенко, присягающий на Конституции в верности белорусскому народу.



«Гобелен века» Кищенко вопреки традиции создавал вне интерьера, поэтому его творение сегодня не в состоянии вместить ни одно помещение республики. С большим трудом «гобелен века» дважды вместил в себя столичный выставочный центр «Минскэкспо» – в 1995 году на презентации гобелена и в 1998 году – к 2000-летию христианства.

Третий и последний раз «гобелен века» выставлялся в текущем году во Дворце республики. Лукашенко хвалился своим гобеленным портретом на саммите глав государств СНГ. Но впечатление было слегка подпорчено тем, что пресловутый «саркофаг» оказался низок для огромного полотна – два метра гобелена лежало на полу.

За исключением этих немногочисленных «выходов в свет», гобелен, свернутый, словно обычный палас, 6 лет пылится в мастерской художника. О том, чтобы его время от времени пылесосить или обрабатывать химсредствами, не может быть и речи. Сотканным из овечьей шерсти гобеленом лакомится моль.



Так сегодня хранится «Гобелен века». Слева — однодневное экспонирование гобелена в Минске в 1998 году

Могло бы быть и хуже. Мастерская Кищенко принадлежит Союзу художников РБ, который после смерти художника потребовал у жены покойного Нины Кищенко освободить помещение от гобелена и 400 полотен. С большим трудом, благодаря своему членству в Союзе художников, женщина отвоевала крышу для гобелена.

Эксперты министерства культуры еще в 1995 году предлагали построить для гобелена «музей одной работы» с горизонтальным размещением и площадками для просмотра гобелена сверху. Тогда же высказывались предложения перепланировать Национальный художественный музей или разместить гобелен в музее, который планировалось построить на базе кинотеатра «Беларусь». Это стало бы частичным воплощением мечты создателя «гобелена века».

Но дальше рекомендаций экспертов дело не пошло. Единственное, что сделал минкульт, – год назад предложил дать «гобелену века» статус историко-культурной ценности. Нина Кищенко отказалась от этого предложения. «Прежде чем это делать, необходимо решить вопрос с размещением гобелена. В случае присуждения статуса даже для выставки гобелена потребуются специальные разрешения минкульта... Сделать гобелен ценностью, чтобы он валялся в мастерской мертвым грузом?» — спросила у чиновников вдова Кищенко.

Ее вопрос остался без ответа, как и судьба «гобелена века» — без будущего... ■

ТЭНДЭНЦЫІ

## Русіфікацыя прагне Тэатра юнага гледача

Валянціна АКСАК, Мінск

**Перавесці на рускую мову Беларускі рэспубліканскі тэатр юнага гледача спрабуюць некаторыя ягоныя акторы.**

У першыню гэтая, так бы мовіць, ініцыятыва была публічна агалошаная напрыканцы мінулага тэатральнага сезона. Гэта зрабіла на агульным сходзе калектыву актрыса Святлана Кліменка. Галоўны рэжысёр тэатра Андрэй Андросік успрыняў ініцыятыву нейтральна, а прысутны на сходзе міністр культуры Аляксандр Сасноўскі, на рэакцыю якога, відаць, і разлічаная яна была, выказаўся ў традыцыйнай для лукашэнкаўскіх чыноўнікаў манеры: маўляў, як вырашыць калектыў, гэтак і будзе.

Некалькі чалавек падтрымалі ініцыятыву, некалькі выказаліся супраць. Частка палічыла за лепшае прамаўчаць. На тым і разышліся на летнія вакацыі. Новы сезон тэатр распачаў гастролямі ў расійскім горадзе Екацярынбургу. І вось там падзабытая за лета ідэя зноў рэанімавалася. Вось што нам паведаміў загадчык літаратурнай часткі тэатру Артур Вольскі:

«Тэатр зараз на гастролях у Екацерынбургу. Дык калі б на рускай мове, дык былі бы велізарны поспех, а так беларускую не разумеюць».

Гэткім чынам пры ацэнцы поспеху тэатра на замежных гастролях робіцца свядомая падмена паняццяў, поспех вызначаецца не мастацкімі вартасцямі спектакляў, а іхняю моваю. ■

Радыё «Свабода»

# Плошча Незалежнасці ў пражэктах

Алена ЛАБАНАВА

**Плошча Незалежнасці – ядро Мінска і самая вялікая плошча ва ўсёй Еўропе. Яна ёсць першай у ланцугу 5 плошчаў па праспекце Ф. Скарыны. Да канца гэтага года будзе праводзіцца конкурс праектаў рэканструкцыі пл. Незалежнасці, які абвясціў гарадскі камітэт архітэктуры.**

Яшчэ ў пачатку гэтага стагоддзя на тэрыторыі, дзе цяпер знаходзіцца плошча Незалежнасці, быў астрог. У 1932 годзе пабудавалі Універсітэцкі гарадок, а ва ўнутраным скверы гарадка перад галоўным корпусам (потым ён стаў галоўным корпусам педагагічнага інстытута) – невялічкую плошчу. У 1934 годзе па праекце архітэктара І.Лангбарда ўзвялі Дом урада, а перад ім плошчу ў межах існуючай і цяпер дарогі. Такім чынам з'явіліся дзве плошчы, якія падзяляліся паміж сабой адным будынкам і дарогай. Яны ўяўлялі сабой горадабудаўнічы ансамбль у канструктывісцкім стылі.

Ён праіснаваў да пачатку 50-ых гадоў, калі быў разбураны падчас перабудовы галоўнага корпуса педінстытута.

З гэтага часу пачалося фармаванне плошчы Леніна: пабудавалі новы галоўны корпус БДУ, будынак гарсавета, знеслі старыя вучэбныя карпусы, а на іх месцы ўжо ў 80-ых гадах узвялі будынак інжынернага корпуса метро, перабудавалі ў шматпавярховы галоўны корпус педінстытута. Такім чынам плошча разраслася да 6,5 га.

Зараз плошча максімальна загружаная транспартам і выконвае функцыю транспартнай развязкі. Падзеленая на дзве часткі, яна фактычна ўяўляе сабой абшар бескарыснай зямлі: зона адпачынку (сквер), абкружаная з усіх бакоў аўтамабільнымі патокамі, недасягальная без небяспекі для жыцця, а аўтастаянка ўвогуле не адпавядае статусу і рэкрыяцыйнаму прызначэнню плошчы Незалежнасці, гэтаксама як і любой іншай плошчы.

«У сувязі з неабходнасцю выканання комплекснага ўпарадкавання «плошчы Незалежнасці камітэт архітэктуры, горадабудаўніцтва і земляўпарадкавання пры Мінгарвыканкаме абвясціў улетку чарговы конкурс праектаў рэканструкцыі плошчы. Цяперашні конкурс закрыты, праводзіцца толькі сярод 4 праектных інстытутаў і фінансуецца за кошт сродкаў з гарадскога бюджэту.

Прапановы атрымаліся розныя: ад больш-менш рэальных да фантастычных. Праблема транспартных патокаў вырашаецца двума спосабамі: пакінуць транспарт на паверхні і перакрыць вуліцу Савецкую ці пусціць транспартную магістраль пад зямлёй. Паркоўку аўтатранспарту большасць праектаў прапануе размясціць на падземным узроўні. Праблему прапорцыяў прапануецца вырашаць альбо візуальным «дзяленнем» плошчы на дзве функцыянальныя зоны (зону ўрачыстасцяў і зону адпачынку) ці дзяленнем будынкамі.





Самы просты праект рэканструкцыі плошчы Незалежнасці прапануе інстытут «Мінскпраект». Зялёная зона прыбіраецца, а на яе месцы пракладваецца замест існуючых дзвюх разгалінаваных дарог адна – працяг праспекта Ф. Скарыны. Яна ідзе да вялікага абеліска, які паўстане насупраць Дома ўрада і педуніверсітэта, і будзе сімвалізаваць незалежнасць краіны. За кошт аб'яднання дарог павялічваецца пешаходная зона.

Ідэя сімвала незалежнасці наогул на конкурсе даволі папулярная. Нярэдка ён суседнічае з помнікам Леніну, бо толькі ў 2 варыянтах рэканструкцыі той мусіць быць дэмантаваны.

Так, у другім варыянце праекта інстытута «Мінскпраект» сімвал незалежнасці даволі маштабны і кампазіцыйна звязаны з галоўным корпусам педуніверсітэта. Тут прапануецца пакінуць аўтастаянку, паменшыўшы яе ў памерах, а побач замест зялёнай зоны пабудаваць вялікую сцэну з навесам і перад ёй плошчу для адпачынку і забаваў. Такім чынам знішчаецца пустэча ў цэнтры плошчы.

А на густ «Минскградо» сімвал незалежнасці не павінен быць вялікім і стаяць побач з помнікам Леніну («правадыра» тут няма), будзе размешчаны ў цэнтры плошчы, дзе зараз знаходзіцца аўтастаянка.

Архітэктары «Белпраекта» прапануюць зрабіць з плошчы Незалежнасці «беларускі Арбат». Гэта адзін з самых фантастычных праектаў: сама плошча і частка праспекта Скарыны да цырка – пешаходная зона. Тут прадугледжаны штучны вадаём, музычна-светлавы фантан, а паміж будынкамі БДУ і педуніверсітэта – шматузроўневая сцэна з вялікім плазменным відэаэкранам. Транспартная магістраль пойдзе ў напрамку праспект Скарыны – вуліца Магілёўская, а побач з ёй узвядуць двухпавярховы гандлёвы цэнтр, Музей гісторыі горада, выставачныя залы.

У якасці варыяцыі гэтага праекта прапануецца пакінуць аўтамагістраль на паверхні, але зрабіць яе ў выглядзе эстакады з празрыстым пакрыццем (у форме трубаў), а замест экрана і сцэны пад заездам на эстакаду размясціць адукацыйны цэнтр.

Творчы калектыў «Мінскграмадзянпраекта» высоўвае ідэю стварэння з плошчы Незалежнасці адміністратыўнай і дзелавой часткі горада: праз стварэнне двух падземных узроўняў магістралі з аўтастаянкай на 900 месцаў і будаўніцтва трох 30-павярховых хмарачосаў. Гэта будуць 5-зоркавы гасцінічны комплекс на базе гатэля «Мінск» (у двары існуючага будынка), адміністратыўна-офісны цэнтр на базе гарвыканкама і Нацыянальны культурна-адукацыйны цэнтр за галоўным корпусам педуніверсітэта. Гатэль і офісны цэнтр звязваюцца паміж сабой рэкрыяцыйнай галерэяй-пераходам і тым самым ствараюць нібыта «браму» перад плошчай Незалежнасці. Існуючаму 16-павярховаму будынку галоўнага корпуса педуніверсітэта прапануецца надаць абцякальную форму і злучыць пераходамі з адукацыйным цэнтрам. На паверхню плошчы з усіх падземных канструкцыяў будуць выходзіць толькі «шкляныя прызмы» — зенітныя ліхтары для асвятлення падземных памяшканняў.

Лепшы з эскізных праектаў будзе выбраны ў канцы снежня, але, як растлумачылі ў камітэце архітэктуры, ніводны ў поўным выглядзе ажыццёўлены ўсё роўна не будзе. Проста будуць выяўленыя магчымыя варыянты вырашэння існуючых праблемаў што да плошчы Незалежнасці, а потым адно з двух: ці на аснове іх спалучэння прыйдуць да нейкага аднаго кампраміснага варыянта, ці ўсё зноў пойдзе ў «сметніцу». ■

## Гісторыя цацак

«Прыгоды Віні Пуха», «Жыцьцё жукоў», «Меч у камені», «Балто», «Аліса ў краіне цудаў», «Прыгажуня ў сонным лесе» – мультыплікацыйныя фільмы, дубляваныя па-беларуску акторамі вядучых менскіх тэатраў.

«Казкі па тэлефоне», «Дзед і жораў», «Азбука для маленькіх», «Ехаў казачнік Бай», «Цік-так ходзікі», «Беларускія народныя казкі», «Стойкі алавяны салдацік + Каліф-бусел» – аўдыёкасэты з запісамі казак, калыханак, песьняў для маленькіх беларусаў.

Цяпер і ў Віцебску: вул. Гогаля, 14, крама «Сучасьнік».

Кошт відэакасэты – 2.000 руб.

Кошт аўдыёкасэты – 600 руб.

Зьвяртайцеся на тэл.: 8 (017) 228-45-88.

Касэты можна замовіць, пералічыўшы грошы звычайным паштовым пераказам на рахунак ЗАТ «Сотвар» р/р 3012000000195 ф-л № 506 ААТ СБ «Беларусбанк», г.Мінск, код 809. У графе «Для пісьмовага паведамленьня» напішыце, якую касэту вы замаўляеце.







СПОРТ

## Тэнісісты ідуць на адпачынак

Аляксей СТАЎСКІ

Нягледзячы на амаль круглагадовы спартыўны сезон тэнісістаў і тэнісістак (кожны з іх робіць сабе адпачынак тады, калі сам палічыць патрэбным), невялікі ўяўны перапынак у іх усё ж існуе. Звязаны ён найперш з святкаваннем Калядаў ды наступленнем Новага года. І хоць па восем самых моцных тэнісістаў яшчэ не скончылі свае «разборкі», пакінуўшы іх, як і падабае самым моцным, на завяршаючы сезон неафіцыйны чэмпіянат свету, асноўная маса ўжо дазволіла сабе часова, на тыдзень-другі, прыпыніць трэніроўкі і крыху адпачыць. Цэлы год пераездаў-пералётаў (а статыстыка кажа, што тры тыдні за год найбольш вядомыя тэнісісты праводзяць у дарозе). Самы час падвесці вынікі.

Што даў мінулы тэнісны год Беларусі? Два нашыя хлопцы Максім Мірны і Уладзімір Валчкоў трывала замацавалі сабе месцы ў тэнісных вярхах. Іх цяжка пакуль што прылічыць да фаварытаў, для якіх кожная параза – катастрофа, але цяпер мы дакладна ведаем, што і першы, і другі здатны на любыя сюрпрызы і няма тэнісістаў, якіх пры ўмове фарту яны не маглі перайграць. Валчкоў асабліва наглядна даказаў гэта на ліпеньскім Уімблдонскім турніры, увайшоўшы ў чацвёрку мацнейшых тэнісістаў свету на галоўным тэнісным турніры. Макс Мірны не вызначыўся такімі буйнымі перамогамі, акрамя хіба самага пачатку года, але выступаў стабільна, рэгулярна выходзячы ў другі-трэці круг буйнейшых турніраў. У выніку ў рэйтынгу за год Валчкоў увайшоў у шосты дзесятак, а Мірны замкнуў чацвёрты. І ў параўнанні з мінулымі гадамі – гэта проста прарыў. Але ж нельга забываць, што ў 2001 першым усё пачнецца спачатку, з нуля, і даказваць сваё права быць на алімпе і наведваць буйныя тэнісныя турніры па спецыяльных запрашэннях прыйдзецца зноў.

У беларускіх жанчын год у нейкім сэнсе таксама можна назваць рэвалюцыйным. Змянілася беларуская тэнісная прыма, што ўжо больш за дзесяць гадоў была лепшай і гэты тэзіс не паддаваўся аспрэчванню. Наташа Зверава, якая, верагодна, хутка сыдзе з вялікага тэніса, апошнім часам выдае не лепшыя гульні і ў выніку з некалі сёмага тэнісрага радка скацілася на сямідзесяты. А Вольга Барабаншчыкава яе абышла на дзесятак радкоў. Але здаецца, што і гэтай прыгожай дзяўчыне не доўга засталося быць у беларускіх тэнісных прымах. Надзея Астроўская і Таццяна Пучак, дзве вельмі маладыя і таленавітыя мінчанкі, ужо наступаюць Барабаншчыкавай і Зверавай на пяткі. І здаецца ў лютым-сакавіку могуць перахапіць лідэрства.



Марат Сафін – тэніснае адкрыццё года

Але гэта ўсё беларускія разборкі, а свет жа вітае новую тэнісную суперзорку расіяніна Марата Сафіна. Дваццацігадовы Марат за год выбіўся ў такія князі, што зараз ягоны тытул «ПЕРШАГА» ніхто не асмельваецца аспрэчваць. У жаночым жа тэнісе ўсё без пераменаў. Марціна Хінгіс са Швейцарыі па-ранейшаму ў вялікім адрыве ад канкурэнтаў. Але па прагнозе спецыялістаў ужо ў наступным годзе можна чакаць, што яе пацясніць нехта з сясцёр Уільямс альбо Ліндсэй Дэвенпорт. ■

Галоўны рэдактар
Павел ЖУК

© НАША СВАБОДА. Спасылка на газету НАША СВАБОДА абавязковая. Рэдакцыя можа не падзяляць меркаванні аўтараў, публікаваць артыкулы дзеля палемікі
Адрас: г.Мінск, пр-т газеты «Известия», 8-173. Пасведчанне аб рэгістрацыі № 1289. Выдаецца з 25 лютага 2000 г. Заснавальнік Зміцер Жук.
Выдавец – рэдакцыя газеты НАША СВАБОДА. E-mail: NPSvaboda@irex.minsk.by Надрукавана ў друкарні УП «Мэджык»
г. Мінск, ул. Кнорына, 50. Заказ 877 Нумар падпісаны ў друк 20/11/2000 (18.00) Наклад – 8.930